Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

Вільня, 16 чэрвеня 1936 г

# ЗА БЕЛАРУСКУЮ ШКОЛУ

## АДНАДНЁЎКА

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі ў Школьным Сакратарыяце: Вільня. Каралеўская вуліца 3—8 (Wilno, ul. Królewska 3—8).

## Да беларускага грамадзянства.

## *За родную школу!*

### *КАМУНІКАТ № 1.*

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы сьцьвярджаюць, што пачатая сёлета справа дамаганьня беларускім насельніцтвам роднай школы разьвіваецца памысна. Шматлікія, сьціраваныя ў Школьны Сакратарыят запатрабаваньні дэкляроцыяў, інструкцыяў, заяваў, адозваў да народу служаць доказам гэтага.

Сьвядомасьць, воля і жаданьне народу мець сваю родную школу ўсьцяж выяўляецца.

Але побач з гэтым, побач з разьвіцьцём сярод беларускіх працоўных масаў беларускай школьнай акцыі вядзецца і супроцьдзеяньне гэтай акцыі. Супроцьдзеяць-жа беларускай школьнай справе ўсе варожыя да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, да беларускага культурнага адраджэньня дзейнікі. Да гэтых дзейнікаў трэба залічыць рознага роду мясцовых няпрызваных палянізатараў. Гэтыя дзейнікі запужваньнем і адгавараваньнем сялян, каб не складалі дэкляроцыяў, стараюцца спаралізаваць беларускую школьную справу.

Найбольш-жа бясправўнымі і балючымі для школьнай беларускай справы фактамі зьяўляюцца факты адмовы войтамі пасьведчаньня подпісаў бацькоў на дэкляроцыях, як гэта мела месца ў воласьці Эйсмонтаўскай, Горадзенскага пав., у воласьці Радашкавіцкай, Маладэчанскага пав., і інш.

У сувязі з вышэйсказаным, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускае Школы:

1. заклікаюць беларускія працоўныя масы да стойкага і вытрывалага дамаганьня беларускай школы;
2. заклікаюць беларускую інтэлігенцыю, асабліва-ж настаўнікаў, студэнтаў, школьную моладзь і інш. актыўна памагаць у вялікай справе барацьбы народу за родную школу;
3. аб усіх фактах надужыцьцяў, сабатажу, моральнага прымусу, зьдзеку і наагул пастуланьня супроць легальнай акцыі дамаганьня беларускай школы, — Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускае Школы просяць неадкладна паведамляць Школьны Сакратарыят — Вільня, Каралеўская 3—8.
4. Ува ўсіх справах, што адносяцца да беларускага школьнага пытаньня — трэба беспасрэдна зварочвацца ў Школьны Сакратарыят.

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры*
*Таварыства Беларускае Школы*

*Вільня, 10.VI.36.*

## Праўда аб школьнай акцыі Т.Б.Ш. і Б.І.Г.і.К.

Мо' ніколі яшчэ палажэньне на беларускім культурна-асьветным фронце ў Польшчы ня было такім цяжкім і вострым, як у сучасны момант. Роднае школы беларусы так амаль і ня маюць, хоць прайшло ўжо больш за 10 гадоў пасьля выданьня закону, які дае беларусам права на родную школу. Больш за сто тысячаў беларускіх дзяцей школьнага веку і зусім застаюцца па-за школай. У далейшым, — калі справа будзе йсьці так, як цяпер, — на вёсцы будзе яшчэ больш анальфабэтаў, бо лік дзяцей школьнага ўзросту штогод павялічваецца, а лік школаў, як гэта відаць з афіцыяльных справаздачаў, застаецца той самы, у кожным разе раўналежна не павялічваецца. З некаторых мерапрыемстваў польскіх школьных уладаў відаць, што і ў будучыні ўрад ня зьбіраецца даць беларусам роднае школы, г. ё. з выкладовою моваю беларускаю. Так, новая школьная праграма Віленскага Школьнага Кураторыуму прадбачыць у нас выключна *польскія* школы, у якіх беларуская мова мае быць толькі „uwzględniana." Калі да ўсяго гэтага дадаць, што і ў галіне па-за-школьнае асьветы беларусы — за рэдкімі, рэдкімі вынятками, — пазбаўлены ўсялякае магчымасьці — з-за вонкавых перашкодаў — вясьці саматугам якую-бы ні было культурную працу, дык пагроза зьдзічэньня, цемры, анальфабэтызму стане зусім рэальнаю, вачавіднаю.

Вось такі стан рэчаў і прымусіў нашыя дзьве найвялікшыя культурна-асьветныя арганізацыі ТБШ. і БІГіК, якія дасюль вялі сваю працу кожная паасобку, аб'яднацца, каб супольна, арганізавана — ў еднасьці і арганізацыі сіла! — вясьці змаганьне за беларускую школу, бо *перадусім праз школу, і толькі праз родную школу можна вывесьці народ на шлях культуры і асьветы.* 26 лютага гэтага году ТБШ і БІГіК выдалі супольную дэкляроцыю і 29 таго-ж месяца адозву да беларускага народу заклікаючы ўзнавіць ранейшую акцыю дамаганьня роднае школы, на падставе закону з 31 ліпеня 1924 году.

Заклік знайшоў самы жывы і шырокі водгук у масах беларускага народу. Няма таго дня, каб на імя Школьнага Сакратарыяту ТБШ і БІГіК ня прыходзілі пісьмы з беларускіх вёсак, у якіх аўтары гэтых пісьмаў — паўнамоцнікі бацькоў, вітаючы пачын ТБШ і БІГіК., просяць Сакратарыят тэхнічна дапамагчы адчыніць беларускую школу ці ператварыць існуючую польскую школу на беларускую. У адказ на гэтыя просьбы Школьны Сакратарыят безадкладна выслаў і прадаўжае высылаць на ўсе падаваныя адрасы дэкляроцыі, розныя друкі і інструкцыю, як дамагацца роднае школы паводле абавязваючых законаў.

Аб'яднаньне ТБШ і БІГіК для школьнай акцыі падрыхтоўвалася ў працягу ўжо некалькіх гадоў. Асабліва актуальнай гэтая справа стала пасьля сумеснага сьвяткаваньня 15-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў 1933 годзе. І калі фактам дакананым гэтае аб'яднаньне сталася толькі сяньня, дык гэта дзеля таго, што ніколі раней уся небясьпека для культуры беларускага народу і наагул яго нацыянальнага існаваньня не зазначалася так востра і вачавідна, як апошнім часам. ТБШ і БІГіК лічылі і лічаць, што ў такі адказны і гістарычны момант ня толькі ўсе культурныя і грамадзкія беларускія арганізацыі, але і наагул кожны шчыры і сьведамы беларус, якому прысьвячаюць у жыцьці ідэалы адраджэньня і вызваленьня нашай Бацькаўшчыны, павінны злучыць і напружыць усе сілы, каб дабіцца фактычнага, — а не на паперы толькі — прызнаньня права нашага народу на родную школу і асьвету. Не зрабіць гэтага зараз, калі вельмі хмарна на беларускім небасхіле — будзе „сьмерці падобна."

Як мы ўжо зазначылі вышэй, у шырокіх масах беларускага народу знайшлося даволі зразуменьня нашай грознай сучаснасьці, дзеля чаго вёска і пачала складаньне дэкляроцыяў, як у 1925-1929 г. г.

Вельмі прыхільна было спатканае аб'яднаньне ТБШ і БІГіК і наагул усім беларускім грамадзянствам. У беларускай прэсе мы не пачулі ніводнага голасу крытыкі, пратэсту ці неспачуваньня. Адзін толькі ўгадовы „Родны Край"— орган „польска-беларускага" Т-ва Беларускае Асьветы—не абмінуў, ужываючы звычайных правакацыйных спосабаў барацьбы, накінуцца, як самы заядлы вораг, на абвешчаную Т—вам Беларускае Школы і Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры школьную акцыю, каб яе спыніць, разбурыць, — каб застрашыць грамадзянства, каб адхіліць яго ад таго шляху, якім у змаганьні за родную школу заклікаюць йсьці ТБШ і БІГіК. Паводле „Роднага Краю," ТБШ і БІГіК зьбіраюцца праводзіць ні больш ні менш, як камуністычную акцыю, каб праз школу пашыраць у народзе камуністычныя ўплывы. Самі ТБШ і БІГіК — бачыце — не дадумаліся-б рабіць „адзіны школьны фронт," калі-б не падбілі камуністычныя агітатары! І наагул, кажуць, невялікія заслугі маюць ТБШ і БІГіК у галіне беларускага школьніцтва. Калі што рабіла і зрабіла, дык гэта толькі ТБА. Вось, кажуць, ТБА ўжо адчыніла некалькі беларускіх пачатковых школаў (дзе іменна — ніколі. ні разу „Родны Край" не падаваў) і забясьпечыла існаваньне беларускай гімназіі ў Вільні (пакуль ня было ТБА, гімназія ў Вільні існавала, як самастойная беларуская гімназія, цяпер гэта філія польскай гімназіі; — існавалі і другія беларускія самастойныя гімназіі ў Наваградку, Клецку, Радашкавічах, — цяпер зусім зьліквідаваныя). Аб'яднаньню, гаворыць „Родны Край," ня ходзіць „аб запраўдным заспакаеньні культурных патрэбаў беларускага народу, а толькі „аб гучных дэманстрацыях" і г. д. Патрэбную беларусам школу зараз, гаворыць „Родны Край", можа даць адно толькі ТБА, чаму і заклікае вёску прысылаць яму аднаму заявы на адчыненьне бел. школаў. Каб сялянам самым ня трэба было ні аб чым клапаціцца, ТБА абяцае паслаць на вёску сваіх агентаў ці інструктараў, якія будуць самі рабіць захады і ў гміне, і ў школьнага інспэктара, і нават у Школьнага Куратара, калі будзе патрэба.

Мы ня зьбіраемся ўваходзіць у паляміку ці спрэчку з „беларусамі" з ТБА і супрацоўнікамі „Роднага Краю." Нам ходзіць толькі аб тое, каб адчыніць грамадзянству вочы на шкодніцкую і правакацыйную работу ТБА у сувязі з паднятай школьнай акцыяй, каб хто ня даўся іхным агентам ашукаць сябе. Бо трэба-ж ведаць, што згодна §§ 2 і 3 свайго статуту Т-ва Беларускае Асьветы клапоціцца аб пазнаваньні і пашырэньні ня толькі культуры беларускай, але ў такой-жа меры і „культуры польскай і іншых нацыянальных меншасьцяў" у гэтым краі. Калі так, то якую школу можа даць ТБА?

Усім добра ведама, у якім кірунку вядзе сваю працу ТБА і якую ці чыю пашырае культуру. Што-ж да дамаганьня роднае школы, дык Т-ву Бел. Асьветы мо' і ўдасца дастаць якіх пару дзесяткаў утраквістычных ці двумоўных школаў (беларуская мова ў іх будзе, разумеецца, на заднім пляне), але ці дзеля гэтага толькі мы ахвярна падымаем змаганьне? Ці гэта адчыніць нам шырокі і вольны шлях да асьветы, да роднага слова ў школе? Ці гэта будзе разьвязаньнем беларускага школьнага пытаньня ва ўсёй яго шырыні? Хай на гэта адкажа сабе кожны грамадзянін.

Але годзе аб ТБА. Даведваемся яшчэ і з пісьмаў некаторых нашых карэспандэнтаў, што ў сувязі з школьнай акцыяй ТБШ і БІГіК і ў некаторых вёсках пачаліся правакацыйныя выступленьні і даносы мясцовых рэнэгатаў і агітатараў з мэтаю перашкодзіць, застрашыць, спыніць зьбіраньне подпісаў і г. д. Ня трэба слухаць такіх людзей. Яны, як і ТБА, робяць не беларускую справу. Пагарда ім.

Адзіны правільны і запраўды беларускі толькі шлях, якім заўсёды йшлі і зараз ідуць ТБШ і БІГіК, дамагаючыся урадавае беларускае школы, з беларускаю выкладоваю моваю. ТБШ і БІГіК ня прысвойваюць выключна сабе, як робіць гэта ТБА, манаполю на дамаганьне роднае школы. Мы заклікаем усе беларускія культурныя і грамадзкія арганізацыі, таксама Беларускі Студэнцкі Саюз і ўсё сьведамае беларускае грамадзянства аб'яднацца з намі на нашай школьнай плятформе і супольна, арганізавана пачаць з намі — усімі легальнымі сродкамі — змаганьне за родную школу, як праўдзівае вогнішча беларускае культуры, як залог лепшае, культурнае будучыні нашага многапакутнага народу

# Кожнае дзіця павінна атрымаць асьвету у роднай, беларускай мове!

## Хатняе навучаньне

Калі няма роднае школы, дык асьвету ў роднай мове можна атрымаць хатнім навучаньнем ці самаадукацыяй. Добра арганізаванае хатняе навучаньне можа ў некаторай меры замяніць школу. Нялёгкая гэта справа і вымагае вялікае ахвярнасьці з боку вучыцялёў ці „дырэктараў." Але яна толькі тады будзе карысная, калі будзе не выпадковаю, а сталаю, калі хатняе навучаньне ня спыніцца на адным буквары, а будзе разгортвацца да большага і большага кругу веды і навыкаў, патрэбных у жыцьці. Разумеецца, шмат будзе на гэтым шляху труднасьцяў і перашкодаў, але, як кажа прыказка, „ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць." Так і тут: арганізаванасьць, моцная воля, добрае спачуваньне і помач сьвядомых людзей — усё перамогуць.

**Як арганізаваць хатняе навучаньне?** Перадусім „школкі" для хатняга навучаньня можна мець у кожнай беларускай вёсцы, каб толькі лік дзяцей у аднэй школцы не перавышаў 8 чалавек. Ніякага дазволу ўладаў на хатняе навучаньне ня трэба прасіць. Для вучыцеля таксама ня трэба ніякіх кваліфікацыяў ці дазволу школьнай адміністрацыі.

Вучыцца могуць: дзеці і дарослыя, у любым веку.

**Хто можа вучыць?** Любы чалавек з мясцовай інтэлігэнцыі, б. вучыцялі, студэнты, вучні беларускіх гімназіяў (былыя і сучасныя), і ўсе, хто пачувае сябе здольным да гэтае працы і мае ахвоту і вольны час. Могуць вучыць сваіх малодшых братоў і калегаў і тыя з вучняў, якія самі нядаўна скончылі буквар. Наагул трэба вучыцца аднаму ў аднаго, неграматнаму ў граматнага.

**З чаго пачынаць?** Нядаўна выданы адумысны буквар для хатняга навучаньня пад назовам „Першыя зярняткі." Вось ім і трэба пачынаць грамату. Калі яго выпісаць з Вільні ў вялікшай колькасьці, дык ён будзе каштаваць 35-40 гр. за экзэмпляр. Таней, здаецца, ужо і ня можа быць. Гэты буквар павінен быць у кожнай беларускай сям'і. Кожнае беларускае дзіця павінна вывучыцца граматы з гэтага буквара.

Першыя крокі заўсёды самыя трудныя. Тут вымагаецца асаблівая ўважлівасьць з боку вучыцеля, каб палажыць добры пачатак. У „Першых зернятках" ёсьць парады для вучыцеля. Згодна з гэтымі парадамі трэба весьці навучаньне граматы. Добра іншы раз і парадзіцца з кім, больш дасьведчаным у гэтай галіне. Наканец, зварочвайцеся ў свае беларускія культурна-асьветныя арганізацыі ці Школьны Сакратарыят. Яны не адмовяцца дапамагчы парадай і т. п. У нармальнай беларускай школе ўсё гэта павінна мець беларускі характар.

—о—

Вось адказ на пытаньне, якая нам патрэбна школа. У сучасных нашых умовах усё вышэйпералічанае ёсьць той ідэал, за які мы, беларусы, павінны змагацца, які павінны асягнуць. Чым большае будзе набліжэньне да гэтага ідэалу, тым справядлівейшае будзе вырашэньне беларускага школьнага пытаньня, тым больш яно страціць з сваей сучаснай балючасьці і вастраты.

Нашыя вымаганьні што да роднае школы, разумеецца, ня ёсьць ігнараваньнем польскае мовы ў школе, польскае культуры, азнаямленьне з якою ў пэўнай меры павінна знайсьці мейсца падчас школьнага навучаньня.

*С. Паўловіч.*

* * *

Хай нас пагоняць...
па каляінах тых дарог,
якімі скутыя браты
у даль на катаргу ішлі.
Там не забудзеш пэўна ты
сваей . . . зямлі
і тых што палі у баю,
і мову родную сваю,
што доўгім шляхам панясеш,
а з ёй ніколі не памрэш.

Калі ня хопе сіл табе,
у тэй вялікай барацьбе,
з якой другія ўстануць дні...
Успомні паўшых ты арлоў
і як змагаліся яны,
і сьлёзы матак і удоў...
І песьні родныя свае,
якія куліся ў агні
і ў сонцы, ў шолаху зарніц: —
на нова з імі ўстанеш жыць!

Вільня, 6.VI. *Максім Танк.*

Спачатку вучыце *чытаць* з буквара, а праз некалькі лекцыяў пачынайце патроху і *пісьмо*.

**Па-за букваром** трэба яшчэ вучыць дзяцей рахаваць, спачатку ў межах першага дзесятку, а потым да 20, да 100 і г. д., даючы адпаведныя задачкі на ўсе чатыры правілы. На пачатку трэба вучыць абавязкава на якіх-колечы прадметах, напр.: палачках, зернятках, гарошынах і г. д.

Час ад часу трэба чытаць вучням кароткія апавяданьні з другіх кніжак ці самому расказываць з памяці. Пасьля гэтага трэба павясьці гутарку аб расказаным ці прачытаным. Таксама хай і вучні апавядаюць свае розныя нагляданьні, здарэньні і г. д., — і ня толькі апавядаюць, але і запісваюць спачатку адным-двома словамі, а пасьля і кароткімі сказамі. Праз усе гэтыя і падобныя заняткі будзе разьвівацца мова і здольнасьць выражаць свае мысьлі ў слове вусным і пісьменным.

З кніжак, якія можна парадзіць для чытаньня пасьля буквару — гэта хіба стары „Родны Край," бо другіх чытанак тут у нас пакуль няма. Для пісьма, калі ўжо вучні будуць магчы напісаць любае слова, можна парадзіць „Пішы самадзейна." Гэтая кніжка дае пэўнае разьвіцьцё і навык выражаць свае мысьлі ў слове і на пісьме. На далейшай ступені трэба ўжо брацца за „Беларускую граматыку" Б. Тарашкевіча.

Гэтыя заняткі ёсьць той фундамант, на якім будуецца ўсё далейшае навучаньне і разьвіцьцё вучняў. Бяз гэтых „першых зернятак" ня можа быць ні „руні," ні „красаваньня," ні «жыцейка," якое нам патрэбна штодня, ад калыскі да магілы.

—о—

Гэтак пачынайма хатняе навучаньне. Разумеецца, яно ня зробіць чуда і адразу ня вывядзе нас „з падзямельля," як піша адзін селянін, на шырокі вольны сьвет. Гэта — праца не аднаго году, не аднаго пакаленьня. Але чакаць, што хтось другі за нас і для нас зробіць, а мы самі і пальцам не парушым — гэта ў наш жорсткі і практычны век толькі сьмеху варта.

Памятайма, што без асьветы мы, беларусы, больш і больш адсоўваемся ад сьвятла навукі, ад культуры, ад усяго цывілізаванага сьвету, ад лепшае і сьвятлейшае будучыні. С. П.

*Бацькі Беларусы! Вучэце сваіх дзетак беларускае граматы! Дамагайцеся роднае беларускае школы!*

## Ход школьнае акцыі Б.І.Г.іК. і Т.Б.Ш. сакавік-травень 1936 г.

Пасьля выданьня дэкларацыі і адозвы БІГіК і ТБШ аб дамаганьні роднае школы, хутка пачалі атрымліваць як гэтыя арганізацыі, так і Школьны Сакратарыят пісьмы з розных кутоў аб прысылцы дэкларацыяў, адозваў, інструкцыяў і др. друкаў, што да школьнае акцыі. Школьны Сакратарыят безадкладна высылаў патрэбныя друкі ў прошанай колькасьці. Апрача гэтага, друкі былі выдаваны і беспасярэдна на рукі пасланцам з некаторых вёсак, і больш як 30 студэнтам — беларусам перад ад'ездам іх з Вільні на вялікодныя сьвяты. Усяго выслана і выдана дэкларацыяў — 27.171, заяў 1259, інструкцыяў 1.205, плякатаў (адозваў да народу) 677, найбольш у паветы Навагрудзкі, Ваўкавыскі, Маладэчанскі, Баранавіцкі, Горадзенскі і інш.

У многіх пісьмах аўтары іх ставяць Сакратарыяту некаторыя запытаньні што да правядзеньня школьнае акцыі. Гэтыя запытаньні ў большасьці маюць агульны характар, дзеля чаго Шк. Сакратарыят адказы на іх адлажыў даць у гэтай аднаднеўцы.

Амаль усе паўнамоцнікі, якія атрымалі друкі, пішуць нам аб розных перашкодах, якія яны спаткалі пры раздачы дэкларацыяў бацьком і пасьведчаньні іх у гмінах. Былі выпадкі зрываньня солтысамі, і асабліва паліцыянтамі і нават вучыцялямі расклеяных на вёсцы адозваў БІГіК і ТБШ аб дамаганьні роднае школы, таксама забіраньня дэкларацыяў і інш. друкаў; былі выпадкі рэвізыяў і вельмі вострых рэпрэсіяў з боку паліцыі, якія выходзяць далёка па-за рамкі права і павінны зьвярнуць увагу пракуратуры.

Што да пасьведчаньня подпісаў войтамі, то часьцей войты адмаўляюць у пасьведчаньні.

## Практычныя парады і адказы на запытаньні.

Права на складаньне дэкларацыяў ня выгасла. Ні закон з дня 31.VII.1924 г, ні распараджэньне Міністра Асьветы з дня 7.I.1925 г. не скасаваны, а абавязываюць і дасюль, як і раней яны абавязвалі школьныя і адміністрацыйныя ўлады. Дзеля гэтага — *войты* ня маюць права адмаўляцца ад пасьведчаньня дэкларацыяў бацькоў, тым балей браць за гэта грошы;

*школьныя інспэктары* маюць абавязак прыймаць дэкларацыі, калі ўсё зроблена згодна з вымаганьнямі закону; *вучыцялі польскіх школ і паліцыянты* ня маюць права мяшацца — тым болей так вострa — ў гэтую справу, бо яны да гэтага не пакліканы законам.

Можна складаць дэкларацыі увесь час, кожнага дня і месяца. Разумеецца, чым хутчэй будуць зложаны, тым ляпей: хутчэй будзе і пажаданы рэзультат. Пашто адкладаць?

Аба ўсіх перашкодах ці надужыцьцях трэба зараз жа і як найдакладней пісаць у Школьны Сакратарыят, пры чым такія пісьмы павінны быць падпісаны не адны толькі паўнамоцнікамі, а па магчымасьці ўсімі бацькамі ці сьведкамі ўласнаручна.

ТБШ і БІГіК не пакінуць бяз увагі ніводнага факту надужыцьцяў, тэрору, перашкодаў усялякага роду. БІГіК і ТБШ будуць падаваць аб гэтым да ведама павятовых старастаў, ваяводаў і Міністраў, або ў суд, вымагаючы ад усіх урадавых дзейнікаў — паступаньня па закону і пакараньня вінаватых. Дзеля гэтага, паўтараем, трэба каб усе факты былі паказаны дакладна і не выклікалі ніякага сумніву, — павінны быць сьцьверджаны як найвялікшым лікам подпісаў, ад якіх ніхто ня будзе пасьля адмаўляцца.

Копіі жалабаў Сакратарыят будзе высылаць па пошце паўнамоцнікам. Паўнамоцнікі могуць зьбіраць пад дэкларацыямі подпісы бацькоў толькі свайго школьнага абводу ці раёну.

Запатрабаваньні на школьныя дэкларацыі і розныя друкі, разумеецца, можна пасылаць у Шк. Сакратарыят адразу на некалькі вёсак ці школьных абводаў, каб і Вам і нам таней каштавала.

Аб падачы дэкларацыяў школьнаму інспэктару — ня йнакш, як пад расьпіску, або заказным пісьмом — трэба зараз-жа паведаміць Школьны Сакрат., зазначаючы, калі падана, колькі дэкларацыяў, на які лік дзяцей, з якіх вёсак і г. д. Канцэлярыя інспэктара можа расьпісацца на другім экзэмпляры заявы бацькоў; тады гэтая заява „адсылаецца ў Сакратарыят.

Хто паслаў у Шк. Сакратарыят пісьмо аб высылцы дэкларацыяў і не атрымаў іх, хай запытаецца на пошце. Ня будзе на пошце — напішэце нам другі раз. Школьны Сакратарыят выслаў дэкларацыі на кожны атрыманы адрас, у вымаганай колькасьці. — Часта пошта зварочвае назад карэспандэнцыю на тэй падставе, што „nie podjęto w terminie." Каб гэтага ня было, даведвайцеся на пошце, калі чакаеце ад нас адказу.

Карэспандэнцыі Шк. Сакратарыят ня можа весьці бясплатна, таму кожны раз на адказ пісьмом ці высылку дэкларацыяў прысылайце грошы, найлепш значкамі паштовымі.

**ВЫЙШЛА З ДРУКУ І ПРАДАЕЦЦА НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА — БУКВАР С. ПАЎЛОВІЧА ПАД НАЗОВАМ**

### Першыя зярняткі

беларуская граматка для хатняга навучаньня. Надрукавана гражданкаю. З 137 малюнкамі. Выданьне Я. Малецкага. 96 старонак. Можна выпісваць праз усе беларускія культурна-асьветныя арганізацыі і Школьны Сакратарыят ТБШ і БІГіК (Каралеўская вул. 3—8). Галоўны склад — беларуская кнігарня „Пагоня" — Завальная вул. 1—2. Цана: да 10 экз. па 50 гр., ад 10 да 20 — па 45 гр., ад 20 да 50 — па 40 гр., вышэй 50 па 30 гр.; за адзін экз. 50 гр. Патрэба такой кніжкі адчуваецца ў нас даўно. Ня маючы роднае школы, беларусы — каб выбіцца на шлях асьветы — павінны зараз усю ўвагу сваю зьвярнуць на хатняе навучаньне. У „Першых Зернятках" даецца лёгкі і хуткі спосаб навучыцца чытаць і пісаць. Апрача ўласнага букварнага матар'ялу (1—44 стр.), у кніжцы ёсьць і багатая чытанка (45—96 стар.), насычаная глыбокім беларускім зьместам. Матар'ял дабраны добра і ўложаны зручна. — Вонкавы выгляд буквара вельмі дадатні.

# Дакумант дня.

**(Да ведама Пана Старасты Горадзенскага пав.).**

Ад Рэдакцыі: друкуем ніжэй даслоўна адзін з яркіх дакумантаў дамаганьня беларускае школы—заяву сялян вёскі Валотыні, Вяліка-Эйсмантаўскае валасьці, Горадзенскага павету. У заяве з‘ілюстраваны бяспраўныя адносіны валасных уладаў да справы пацьверджаньня на дэкларацыях подпісаў сялян, жадаючых беларускае дзяржаўнае народнае школы. У справе бяспраўнага пастулку войта В.-Эсмонтаўскае валасьці, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Таварыства Беларускае Школы будуць інтэрвэньяваць у адносных адміністрацыйных уладаў, а воля сялян мець родную школу будзе — гэтымі-ж арганізацыямі перадана адпаведным школьным уладам.

*У Школьны Сакратарыят у Вільні.*

Грамадзян вёскі Валотыні, Вяліка-Эйсмонтаўскае валасьці, Горадзенскага павету, ніжэй падпісаных.

З А Я В А.

Атрымаўшы ад Школьнага Сакратарыяту блянкі дэкларацыяў і інструкцыю, як дамагацца адкрыцьця беларускае дзяржаўнае школы, мы ніжэй падпісаныя грамадзяне вёскі Валотыні запоўніўшы 37 штук дэкларацыяў на 54 дзяцей у школьным веку і выбраўшы паўнамоцніка ў асобе Івана Баліцкага дня 22 траўня 1936 году пайшлі ў валасьць Вяліка - Эйсмонты, каб войт пасьведчыў уласнаручнасьць нашых подпісаў на дэкларацыях, якія мы мелі пасьля пераслаць Школьнаму Інспэктару ў Горадні. Калі мы зайшлі ў валасьць і зьвярнуліся са сваею справаю і жаданьнем да войта Тадэуша Пэрсоўскага, то ён рашуча адмовіўся пасьведчыць нам нашы подпісы на дэкларацыях, не падаючы на‘т ніякіх падставаў. Калі некалькі сялян запыталі, чаму ён не хоча пасьведчыць подпісаў, хаця ёсьць на гэта спэцыяльнае распараджэньне Міністра Унутраных Спраў з дня 12 лютага 1925 году, якое загадывае, каб войты сьцьвярджалі подпісы на дэкларацыях і прытым бясплатна, — войт адказаў: „wy macie sobie Rosporządzenie Ministra, a ja mam swoje instrukcje i żadnych podpisów stwierdzać na deklaracjach nie będę. Jedźcie sobie do Grodna do rejenta, tam zapłacicie po 5 złotych za podpis i on wam poświadczy". Пасьля гэтага войт загадаў пакінуць валасную канцэлярыю. Калі мы пакінуўшы валасную канцэлярыю вышлі надвор і затрымаўшыся на ганку валаснога будынку пачалі абгаварываць, што нам рабіць далей, к нам выйшаў на ганак сакратар гміны Ст. Пшаноўскі, які пачаў нас угаварываць, што дамаганьне беларускае школы ня мае ніякага сэнсу, кажучы: „poco wam szkoła białoruska, kiedy z was nikt nawet nie umie ani czytać ani pisać ani mówić po białorusku, język białoruski nigdzie nie jest potrzebny, we wszystkich urzędach używany jest język polski i dzieci trzeba uczyć po polsku. Jeżeli waszym dzieciom za daleko chodzić do szkoły w Wielkich Ejsmontach, to złóżcie lepiej podanie do Inspektora Szkolnego o otwarcie we wsi Wołotyni szkoły polskiej, wtenczas i gmina dopomoże i w jesieni będziecie już mieć u siebie szkołę". Калі на гэтыя словы пан Пшаноўскі пачуў адказ, што мы ўсе гаворым толькі пабеларуску, хаця і ня знаем літаратурнае беларускае мовы, бо нас ніхто яе ня вучыў, так як ня вучаць і нашых дзяцей, але-ж усёж-тыкі многія з нас умеюць чытаць пабеларуску, бо навучыліся самі, ды што мы добра ўжо сабе ўсьведамілі, што кожная нацыя павінна мець школы на роднай мове і ў гэтай справе ніхто нас не саб‘е з абранага шляху, ды і пачуўшы нарэшце запытаньне, чаму гэта польская прэса ды і ўсё польскае грамадзянства паднялі гэткую магутную акцыю пратэсту, калі літоўскі ўрад пачаў закрываць на Літве польскія школы, — ён замаўчаў і пашоў у валасную канцэлярыю, а мы пайшлі да дому. У адлегласьці блізка 1 км. ад Вялікіх-Эйсмонтаў насупроць могілак нас перапыніў камандант Пастарунку Дзяржаўнае Паліцыі ў В.-Эйсмонтах старшы пшодоўнік Вроньскі Кароль і перапытаўшы і пазапісываўшы нашы прозьвішчы пусьціў нас да дому кажучы: „idźcie do domu, bądźcie ludźmi i siedźcie spokojnie".

Дзеля ўсяго вышэй сказанага мы ніжэй падпісаныя сяляне вёскі Валотыні перасылаем пры гэтым 37 штук дэкларацыяў на 54 дзяцей з дамаганьнем беларускае дзяржаўнае школы ў в. Валотыні без пасьведчаньня нашых подпісаў і заяву Школьнаму Інспэктару ў Горадні і ветліва просім Школьны Сакратарыят ськіраваць іх ад сябе да адпаведных школьных уладаў і паведаміць нас аб гэтым праз нашага паўнамоцніка Баліцкага Івана.

(37 подпісаў).

Валотыня, дня 24 траўня 1936 г.

# Пану Пракурору да ведама.

Ад Рэдакцыі: друкуем зьмест прысланага ў Школьны Сакратарыят у Вільні пісьма гр. Мікалая Рудзяка, і просім Пана Пракурора вінаватых бяспраўнага і карыгоднага пастулку адносна гр. Рудзяка пацягнуць да судовай адказнасьці.

*Да Школьнага Сакратарыяту ў Вільні.*

Падсолтыс грамады Міжаво, Пескаўскае валасьці, Ваўкавыскага пав., Мікалай Рудзяк.

Паведамляю Школьны Сакратарыят, што прысланыя адозвы і дэкларацыі і інструкцыі былі даручаны мне, як падсолтысу і паўнамоцніку вёскі Міжаво. Я дня 31-га траўня а гадзіне 6-й раніцы выклеіў тры адозвы, адну на сярэдзіне вёскі, а дзьве па канцох. Даведаўшыя аб гэтым солтыс, пашоў замэльдаваў паліцыі ў Песках. Пад вечар прыехаў пастарунковы Каліноўскі, забраў ад мяне ўсе інструкцыі, заявы і дэкларацыі, пазрываў са сьцен адозвы і сказаў мне прыйсьці на пастарунак а гадзіне 8-й рана. 1-га чэрвеня я пайшоў на пастарунак. На пастарунку яшчэ нікога ня было, посьле прышло двух пастарунковых Каліноўскі і Цішэўскі. Цішэўскі адразу абазваў мяне камуністам, і пабіў мяне па твары і ўдэрыў па нагах. Камандант пастарунку таксама мяне пабіў, абазваў мяне беларускім палітыкам, і загразіў мне рознымі карамі, і арыштам, а формуляры — сказаў — перашле да старства ў Ваўкавыск.

Калі праўда, што закон прызнае беларускую школу, то зашто мяне б‘юць на пастарунку. Гэта мяне ўзьдзіўляе.

Прывет Вам ад імені грамады Міжаво.

**Мікалай Рудзяк.**

Дня 2.VI.36 г.

# Хай у нас, асабліва сярод моладзі, ня будзе аніводнага няпісьменнага чалавека!

# Карэспандэнцыі.

У Школьны Сакратарыят пішуць:

— Мы сяляне вёскі Тулічава, **Пачапаўскай вол., Навагрудзкага пав.**, з радасьцю вітаем адозву за родную школу. Наша вёска даволі вялікая, мае больш 110 хат. Нацыянальная сьведамасьць паднята высока. Сяляне наагул бедныя. Большая палавіна ня мае хлеба ад Каляд. Шмат людзей у нас ядуць бяз солі. Але гэтага мусіць ня ведаюць паны з вышэйшых „ужэндаў" і ня хочуць ведаць, калі прысылаюць сэквэстратараў, каб забіралі апошні кусок хлеба ад галоднага селяніна.

Цяпер нашыя сяляне дасталі школьныя дэкларацыі і адозвы за родную школу. Адну адозву прыбілі да сьцяны, а астальныя палажылі разам з інструкцыямі і дэкларацыямі. Але нядоўга яны красаваліся, бо даведалася аб гэтым паліцыя і зьявіўшыся ўночы забрала гэтыя дэкларацыі і адарвала адозву. Нашыя сяляне пратэставалі супроць гэтага. З Вільні да Тулічава дайшлі дэкларацыі і ніхто іх нечапаў, а тут раптам бах! Паліцыя забірае дэкларацыі, зрывае адозву і страшыць яшчэ сялян, што будуць пакараны „гжыўнаю" за тое, што прыбілі адозву.

Браты Беларусы! Мы ў вас просім, каб нам прыслалі неадкладна дэкларацыяў, адозваў і інш. друкаў. Прышліце ўсе патрэбныя матарыялы зьвязаныя з беларускаю школаю. Адозваў нават можаце прыслаць і болей, бо як сарве паліцыя адну, то прыб‘ём другую. Шлём вам гарачы прывет!

*Селянін.*

— Мы сяляне нашай беларускай вёскі **Даўгаполічы**, вол. **Зэльва, Ваўкавыскага пав.**, жывём як у падзямельлі. Моладзь нашая зусім няграматная, ня маем у вёсцы ня толькі беларускай, але нават і польскай школы, хоць дзяцей налічваецца 70. У вёсцы Бібікі, за два кілямэтры, вучацца ў аднэй школе 130 дзяцей з трох вёсак, хоць школа можа зьмясьціць 40 дзяцей; дзеці вучацца па 2 гадзіны ў дзень і канчаюць школу зусім няпісьменныя.

Мы ня можам апісаць Вам усіх балячак нашай беларускай вёскі. Мы хочам здабыць асьвету ў роднай мове. Мы ведаем, што шляхам асьветы здабудзем сабе лепшую долю.

*Р.*

— **в. Сычавічы, Радашкоўскае вол., Маладэчанскага пав.** Паведамляем, што ўсе дэкларацыі, з подпісамі бацькоў, не пацьверджаныя войтам, высылаем Вам. Паліцыя штодзенна прыходзе і спаганяе падпісаныя бацьбамі ўсе дэкларацыі; усе інструкцыі і адозвы паліцыя забрала.

*П.*

— **в. Заполе, Карэліцкай вол. Навагрудзкага пав.** У нашай вёсцы ёсьць польская школа, але сяляне дамагаюцца мець школу ў роднай мове. Усе пастанавілі падпісваць дэкларацыі з дамаганьнямі беларускай школы.

*М. Б.*

— **в. Парфенавічы, Пескаўскае вол., Ваўкавыскага пав.** Мы грамадзяне в. Парфенавічы радасна вітаем барацьбу за родную школу. І вось мы хоць цёмныя, але зразумелі патрэбу сваей беларускай школы і пастанавілі яе здабыць.

*М.*

— **в. Раеўшчына, Маладэчанскага пав.** Мы, бацькі, — сяляне в. Раеўшчына, — дружна прыступілі, каб была ў нашай вёсцы свая родная школа. — У нашай вёсцы ёсьць школа польская. Нашыя дзеці ўсе праваслаўныя, ходзяць у школу па 3 гады і нават расьпісацца ня могуць; не разумеюць польскай мовы. Просім парадзіць нам, як і куды зварочвацца з дамаганьнем роднай школы.

— **в. Паўлаўшчына, Ізабэлінскай вол., Ваўкавыскага пав.** Хоць яшчэ ў 1924 годзе мы зложылі дэкларацыі школьнаму інспэктару ў Ваўкавыску з дамаганьнем беларускай школы ў в. Паўлаўшчына, школы аднак не дасталі. Цяпер ізноў насельніцтва нашага Ваўкавыскага павету рыхтуецца дамагацца свае роднае беларускае школы, а дзеля таго просім прыслаць — чым хутчэй — дэкларацыяў, інструкцыяў і ўсе патрэбныя друкі адносна адчыненьня беларускае школы, — каб мы маглі яшчэ ў гэтым месяцы красавіку зложыць школьнаму інспэктару дэкларацыі, мо‘ удалося-б у наступным годзе мець сваю родную беларускую школу.

5.IV.36. *С.*

— **в. Цюрлі, Маладэчанскай вол. і пав.** Мы, сяляне, ацаніўшы карысьць, якую дае нам беларуская школа, будзем старацца яе заложыць. У нас ёсьць школа польская. Вучыцца ў школе 112 беларускіх дзяцей з 4-х вёсак. Да 1930 г. у нас вучылі пабеларуску, але 2 гадзіны ў дзень (2 дні ў тыдзень), а цяпер і гэтага няма. Моладзь, каторая скончыла польскую 4-х аддзяловую школу, цяпер нават і расьпісацца ня ўмее. А як чалавек нясьведамы і неадукаваны, то яго выкарыстываюць.

Наша вёска мае 37 хатаў; большасьць малазямельныя, няма з чаго жыць, — ходзяць да пана ў двор, каб зарабіць 60 гр. у дзень (мужчыны!).

Усіх братоў Беларусаў заклікаю змагацца за школу ў роднай мове, а моладзь адукавацца саматугам.

*Вясковы.*

— **в. Кур‘янава, Дзісьненскага пав.** Школьная акцыя пашыраецца ў нас надта цяжка. Сяляне маласьведамыя. А што найгорш, паліцыя ставіць вялікія перашкоды; надта яна „зацікавілася" школьнай акцыяй. Адведвае сялян і запрашае да сябе на пастарунак. Паліцыя цьвердзіць, што будзе... тое, што з „гурткамі"...

Польскія арганізацыі маюць у нас зусім слабы ўплыў. Ад трох гадоў існуе ў нас „Коло Млодзежы Вейскей". Побач з польскімі, ладзіць гэтае „кола" і прадстаўленьні беларускія, якімі людзі надта цікавяцца.

*А.*

— **в. в. Марцянаўцы і Грыбаўцы, Гудзевіцкай вол. Горадзенскага пав.** Атрымаўшы школьныя інструкцыі, дэкларацыі, адозвы і т. д., мы вывесілі адозвы ў в. Грыбаўцы. Солтыс аднак, з намовы каморнікаў, каторыя былі ў гэным часе ў вёсцы ў сувязі з комасацыяй, а такжа з намовы некаторых „сваіх", — паздымаў адозвы і адаслаў на пастарунак паліцыі ў м. Воўпа.

*В.*

**Ляхавіцкая валасьць,** Баранавіцкага пав. У справе складаньня дэкларацыяў на родную школу робяцца такія перашкоды, каторых немагчыма будзе падалець, калі Вы там не зарадзіце гэтаму.

У в. Жэрабковічы забрала паліцыя дэкларацыі і не вярнула. 4-га чэрвеня ў в. Шавелі паліцыянт Гарстэк забраў 120 дэкларацыяў у Тодара Кумэйшы і сарваў адозву да беларускага народу ў справе складаньня дэкларацыяў, адначасна арыштавалі там хлапцоў Адама і Паўла Лукшаў, Тодара Кумэйшу, Цімоха Сокала і Мікалая Косьцюка, каторыя давалі бацькам дэкларацыі (ім закідаюць зьбіраньне грошаў на Мопр). — 7.VI сёлета камандант Ляхавіцкага пастарунку Дубовік разам з паліцыянтам Гарсткам сарвалі адозву ў школьнай справе у в. Канюхі, а ў в. Зубелянічы гэта самае зрабіў кіраўнік тамашняй польскай школы Пётр Цэхановіч, пры гэтым паліцыя ў Зубелявічах дапрашвала Якуба Сокала, дзе ён дастаў адозвы і дэкларацыі; чаплялася да яго за нячыстату, што няма пажарных прыладаў і т. д.; пасьля загадала яму явіцца на пастарунак на гадзіну 8-ю раніцы 8.VI, што ён і зрабіў. Але што было з ім на пастарунку, ведаюць паліцыянты і ён сам...

Абавязкам беларускага арганізаванага грамадзянства ёсьць канешна ўсе перашкоды зьліквідаваць.

*Я.*

Рэдактар-Выдавец: мгр. Ян Шутовіч.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная 1—2.